# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 24 (1059) ГОД XXI 13 ЧЭРВЕНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.





Большасць з'ездаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства адбываецца або напрадвесні, або ў самы разгар вясны. Яны абнаўляюць і пабуджаюць нашу арганізацыю да новага, больш інтэнсіўнага дзеяння, быццам тхненне вясны прыроду. Падкрэсліў гэта старшыня Галоўнага праўлення БГКТ **М. Самоцік,** адкрываючы 30 мая бягучага года VIII з'езд нашай арганізацыі і вітаючы прыбыўшых на яго дэлегатаў і гасцей.

Ранг з'езду падкрэслілі сваёй прысутнасцю старшыня Ваяводскага камітэта ФАН **С. Кудла, сакратар Ваяводскага** камітэта ПАРП **Ю. Пяхоўскі,** прадстаўнік ЦК ПАРП **Ч. Даміноўскі,** дырэктар грамадска-адміністрацыйнага дэпартамента Міністэрства ўнутраных спраў **Е. Зарэмба** і намеснік начальніка гэтага дэпартамента **Е. Хлонь,** візітатар Міністэрства асветы і выхавання **С. Янкоўскі,** дырэктар аддзела ўнутраных спраў Ваяводскага ўпраўлення **Т. Самуль,** старшыня Ваяводскага праўлення ССПМ **В. Далэнгоўскі,** прадстаўнік Ваяводскага праўлення ТППР **Л. Лянчэўскі,** прадстаўнікі іншых палітычных і грамадскіх арганізацый, а таксама працаўнікі радыё і друку. Усіх іх дэлегаты з'езду сустрэлі гарачымі апладысментамі.



**З дакладам выступае старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік.**

Згодна з прапановай М. Самоціка з'езд выбірае сваім старшынёю Я. Зенюка. Дэлегацыі моладзі з беларускіх ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы ад імя сваіх настаўнікаў і сяброў-школьнікаў зачытваюць прывітанні з'езду і падносяць у прэзідыум букеты бела-чырвонай гваздзікі.

Дэлегаты аднагалосна прымаюць правілы працы і праграму з'езду.

Вялікай групе дзеячоў БГКТ і працаўнікоў „Нівы" сакратар ВК ПАРП Ю. Пяхоўскі і старшыня ВК ФАН С. Кудла ўручаюць дзяржаўныя ордэны і рэгіянальныя ўзнагароды, намеснік дырэктара аддзела культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення Т. Самуль уручае дыпломы і грашовыя ўзнагароды, прадстаўнік ВП ТППР Л. Лянчэўскі — дыпломы, а старшыня ГП БГКТ вялікай групе гасцей, прадстаўнікоў супрацоўнічаючых з таварыствам арганізацый і дзеячоў БГКТ — памятныя медалі „20 год БГКТ". Ад імя атрымаўшых дзяржаўныя адзнакі і ўзнагароды дзякуе М. Гайдук.




**Прэзідыум VIII з'езду Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

З'езд стварае камісіі: мандатную, прапаноў, выбарчую і статутовую; яны гарантуюць спраўны ход працы найвышэйшага кворума нашай арганізацыі.

Са справаздачным дакладам выступае М. Самоцік.

— Сённяшні VIII з'езд БГКТ мае асабліва вялікае значэнне, — падкрэслівае дакладчык, — паколькі ён заканчвае не толькі мінулы чатырохгадовы перыяд дзейнасці, але і з'яўляецца кульмінацыйным пунктам адзначэння 20-годдзя нашай арганізацыі.

І ён засяроджвае ўвагу на мінулым 20-годдзі БГКТ — перыядзе шматлікіх ініцыятыў, пошукаў найбольш эфектыўных форм дзейнасці, стварэння матэрыяльнай базы для дзейнасці нашай арганізацыі, падрыхтоўкі актыву да выканання задач, пастаўленых перад БГКТ. У гэтай справе найбольш эфектыўную дапамогу аказаў наш орган — штотыднёвік „Ніва", тыраж якога з кожным годам узрастае, цяпер даходзіць да 8 000 экземпляраў і трапляе ў 13 краін свету. Іменна „Ніва" адыгрывае ролю дзейснага прапагандыста, арганізатара і кворума абмену вопытам у нашай культурна-асветнай дзейнасці. З яе старонак пачынаюць свой радавод літаратурнае аб'яднанне „Белавежа" і навуковы гурток БГКТ. „Ніва" і „Зорка" — гэта надзённыя дапаможнікі ў навучанні роднай мовы ў школах ды любві і пашаны да ўсяго роднага ва ўсіх беларускіх асяроддзях Народнай Польшчы. Успамагае „Ніву" беларускае друкаванае слова з 45 кніжных выданняў, якія выпусціла БГКТ у мінулыя 20 год агульным тыражом у 150 тысяч экземпляраў. Наша арганізацыя вядзе шырокую прапагандысцка-лектарскую працу, на яе рахунку ёсць каля 3000 дакладаў і гутарак, 6000 фотавыставак, 1800 аўтарскіх сустрэч і 3 500 урачыстых вечарын, вечароў адпачынку і фэстынаў. Гэтая велічная колькасць мерапрыемстваў датычылася тэмаў міжнароднай сітуацыі, дасягненняў Народнай Польшчы і СССР, сучаснасці і мінулага БССР, гісторыі польска-беларускіх культурных сувязей і інш. Велізарную работу правяло БГКТ у справе разбуджэння мастацкай самадзейнасці, у гісторыі БГКТ кожная другая вёска ў беларускім асяроддзі мела свой калектыў, а шэраг з іх дало па некалькі соцень выступленняў, як напрыклад, славутая „Лявоніха" (звыш 2000 канцэртаў), гарадоцкі калектыў (звыш 600 канцэртаў), актыўна працуюць калектывы з Бельска, Белавежы, Дубяжына, Беластока, Плёскаў і дзесяткі іншых. Фэстыны БГКТ сталі агульнанароднымі святамі і трывала ўпісаліся ў культурны ландшафт Беласточчыны. Наша таварыства наладзіла цеснае супрацоўніцтва з многімі іншымі грамадскімі і маладзёжнымі арганізацыямі і, такім чынам, мае надзейных саюзнікаў у сваёй дзейнасці. Справы вывучэння беларускай мовы ў пачатковых школах, стварэнне кафедры беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце, пашырэнне чытальніцтва беларускіх кніг і часопісаў і дзесяткі іншых дзялянак і

(Працяг на стар. 2)

### ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ БГКТ

**Іван Алексеюк**
**Тамара Алексеюк**
**Анна Амбражэй**
**Аляксандр Баршчэўскі**
**Аляксандр Башко**
**Георгі Валкавыцкі**
**Анна Васілюк**
**Мікалай Гайдук**
**Хведар Галёнка**
**Вольга Гарустовіч**
**Міхась Гацута**
**Янка Зенюк**
**Аляксандр Іванюк**
**Анна Ігнацюк**
**Генадзь Казлоўскі**
**Аляксандр Каленік**
**Аляксей Карпюк**
**Юрка Кіслы**
**Мікалай Куптэль**
**Міхась Кучка**
**Валянціна Ласкевіч**
**Віталіс Луба**
**Сяргей Лукашук**
**Валянціна Мароз**
**Анатоль Мартыновіч**
**Сяргей Мартыновіч**
**Іосіф Навіцкі**
**Уладзімір Паўлоўскі**
**Мікалай Пашкоўскі**
**Мікалай Раманюк**
**Аляксандр Рафаловіч**
**Віталіс Садоўскі**
**Хведар Садоўскі**
**Мікалай Самоцік**
**Вінцук Склубоўскі**
**Уладзімір Сцепанюк**
**Мікалай Суліма**
**Галена Тапалянская**
**Сцяпан Трафімюк**
**Мікалай Хлябіч**
**Софія Цацэрка**
**Ніна Цыванюк**
**Эдуард Шафаловіч**
**Віктар Швед**
**Уладзімір Юзвюк**

### ПРЭЗІДЫУМ ГП БГКТ

**Мікалай Самоцік — старшыня**
**Георгі Валкавыцкі — намеснік старшыні**
**Янка Зенюк — сакратар**
**Аляксандр Баршчэўскі — член**
**Аляксандр Іванюк — член**
**Аляксандр Рафаловіч — член**
**Вінцук Склубоўскі — член**
**Сцяпан Трафімюк — член**
**Ніна Цыванюк — член**

### ГАЛОЎНАЯ РЭВІЗІЙНАЯ КАМІСІЯ

**Міхась Хмялеўскі — старшыня**
**Сымон Шыманюк — намеснік старшыні**
**Тамара Рачкевіч — сакратар**
**Васіль Антыпюк — член**
**Уладзімір Навіцкі — член**



**У зале VIII з'езду Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

# Арэшкаўскі фэстын

У бягучым годзе народныя фэстыны БГКТ, якія арганізоўвае Беларускае таварыства, будуць праходзіць пад лозунгам XX гадавіны БГКТ. Першая такая ўрачыстасць адбылася ў вёсцы Арэшкава, што ў Гайнаўскай гміне. Гаспадаром святкавання юбілейнай даты быў мясцовы гурток нашай арганізацыі, які ўзначальваецца Нінай Аверчук. Арэшкаўцы моцна рыхталіся да фэстыну, які тут меў адбыцца ўпершыню. Неаднойчы жанчыны (гурток БГКТ у гэтай вёсцы ў асноўным складаецца з жанчын — членаў гуртка вясковых гаспадынь) абмяркоўвалі, як правесці свята, каб было яно на высокім узроўні. Мясцовая фальклорная жаночая харавая група падрыхтоўвалася да выступлення, рыхтаваліся спартыўныя ігры. Пад кіраўніцтвам настаўніц рыхтаваўся таксама школьны мастацкі калектыў. І мужчыны папрацавалі, рыхтуючы самаходныя прычэпы, якія былі трыбунай і сцэнай для фэстына. Вялікую дапамогу ў арганізацыі фэстына аказаў раённы дом культуры ў Гайнаўцы, а перш за ўсё Альжбета Цаглярская, і інструктар ГП БГКТ Віктар Бура.

23 мая ўжо з самай раніцы пачалі прыязджаць ГС-аўскія самаходы з харчамі, напіткамі і марожаным. Прыехалі мастацкія калектывы і прадстаўнікі ўлад. Сабралася не менш тысячы чалавек, якія прыбылі нават з далёкіх вёсак. На школьным пляцы прыгожа выглядала трыбуна, якая абсаджана была бярозкамі, ля якіх былі вялікія чырвоныя і белачырвоныя палотнішчы. А далей паміж імі відаць быў надпіс „20 год БГКТ“. Непадалёку ад трыбуны, на сталах, разложаны былі кніжныя выданні ГП БГКТ, на якія было шмат пакупнікоў.

А 12 гадзіне распачалася афіцыйная частка. Адкрыў яе начальнік Гайнаўскай гміны Юрый Буйноўскі, які ў кароткай прамове падкрэсліў значэнне юбілейнай даты БГКТ, заслугі вёскі ў развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці і заслугі арэшкаўскіх жанчын у развіцці мастацкай самадзейнасці. З дакладам аб дваццатай гадавіне Беларускага таварыства выступіў старшыня Галоўнай рэвізійнай камісіі Міхась Хмялеўскі.

Затым на сцэну — трыбуну ўвайшлі арэшкаўскія школьнікі, якія выканалі па некалькі беларускіх, польскіх і рускіх песень. А паміж песнямі выступалі вучні з вершамі. Дэкламавалі даволі добра. Асабліва ўзрушаны быў ад гэтых вершаў прысутны на фэстыне наш паэт Віктар Швед, вершы якога прадстаўлены былі і ў песні, і ў дэкламацыі. Пасля школьнікаў выступала мясцовая жаночая фальклорная група, якая атрымала шмат гарачых апладысментаў за свае старадаўнія песні.

Многа сардэчнага смеху выклікала панадворкавая капэла з Гайнаўкі, якая пад уласную музыку спявала вясёлыя сатырычныя і народныя песні.

Захапіў сваім мастацтвам калектыў песні і танца з Белавежы „Белавежа“, які працуе пад кіраўніцтвам Аляксандра Лукашука і Янкі Крупы. Музычны калектыў гарадскога гуртка БГКТ з Беластока і перад афіцыйнай часткай і пасля ўсіх калектываў трыумфаваў на сцэне. Іграў ён і тады, калі адбываліся спартыўныя футбольныя спаборніцтвы спецыфічных каманд. Спаборнічалі паміж сабой жанатыя з нежанатымі, а пасля хлопцы з дзяўчатамі. Цікавая была гэта ігра. Надвячоркам распачалася танцавальная вечарына.

Арэшкаўскія жанчыны не адпусцілі запрошаных прадстаўнікоў улад, пакуль не пачаставалі ўласнай кулінарыяй і не распыталі пра ўражанні аб фэстыне. Сакратар гміннага камітэта ПАРП у Гайнаўцы Іван Скепка высока ацаніў выхаваўчы змест фэстына БГКТ, старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік падкрэсліў высокі арганізацыйны ўзровень фэстына, а Альжбета Цаглярская выказала вялікае задавальненне з таго, што якраз у дзень дзеяча культуры адбывалася гэта грамадска-культурнае мерапрыемства, якое яшчэ раз падкрэсліла добрае развіццё культуры ў беларускім асяроддзі.

Тэкст і фота **Міхася Сваяка**



*Арэшкаўскі хор.*



*Спявае „Белавежа“.*



*Панадворная капела з Гайнаўкі.*



*Спартыўныя спаборніцтвы.*



*ГС памог харчамі.*



*Выступаюць мясцовыя школьнікі.*

# Боцькі поўныя фальклору

Боцькі... Прыгожая назва. Ці ж не ўстае адразу ў вашых вачах рад пакрытых саломай стадол з вялізнымі, разлажыстымі, поўнымі павагі буслінымі гнёздамі, з якіх разліваецца над узятай у палон вясны зямлёй залівістае клекатанне гэтых чырвонаногіх, з доўгімі дзюбамі, легендарных птушак? Так, чароўная прыгажосць. Але цяпер няма ані саламяных стрэх, ані такой колькасці бусліных гнёздаў... Затое большасць розных назваў звязана з гэтай птушкай. Вось хаця б рэстаран, які назвалі „Бусел“. Або песенны калектыў, які нядаўна ўзнік і якому далі імя „Клекацякі“...

Песенныя калектывы з фальклорным рэпертуарам — гэта ўжо ў Боцьках традыцыя. Даволі многа іх тут было. Адны распадаліся, другія ўзнікалі. Год 1960. Нарадзіўся тады калектыў народнай песні. Хутка яго склад павялічваўся, і дайшло да 25 асоб. Мелі свае інструменты: 6 мандалін, 6 гітар і адзін акардэон. Пад кіраўніцтвам Гэнавефы Луц'ян — жанчыны поўнай арганізацыйных здольнасцей, якая зараз з'яўляецца дырэктарам мясцовага клуба культуры, зайшлі даволі высока. Выступалі не толькі ў сябе, але і ў іншых мясцовасцях. У сувязі з рознымі святамі запрашалі іх у розныя гарады.

— І так было да 1965 г. — гаворыць Г. Луц'ян. — Потым людзі пачалі цікавіцца музыкай сучаснай.

Гэта быў канец. Разляцелася. Мікалай Турковіч — таленавіты акардэаніст калектыву спрабаваў яшчэ нешта зрабіць. Стварыў ён невялічкую групу „Фіглярныя дзяўчаты“, якая праіснавала, бадай, да 1969 г. і распалася. М. Турковіч перайшоў у Бельск і распачаў працу з „Ютшэнкай“ і „Падляшскімі кукулкамі“ .

У Боцьках, здавалася, ужо нічога не будзе. Але ж не. Ствараліся там розныя невялічкія калектыўчыкі. Аднак былі гэта свабодна існуючыя групкі. Вось хаця б „Калядныкі“, дзейнасць якіх была цесна звязана са святам каляд. Хадзілі ад хаты да хаты і калядавалі. Падтрымоўвалі традыцыю. Былі гэта найчасцей людзі старэйшыя, нават такія, якім было за 65 год. Дзейнічалі таксама і другія фальклорныя групы. І вось у Кольне быў арганізаваны агляд народных калектываў. Выступілі і Боцькі. Гэта і быў штуршок да ўзнікнення „Клекацякаў“, якім ужо каля паўтара года і ў склад якіх уваходзіць 15 асоб. Кожны з іх мае музычны інструмент. Калі пры інструментах, то ёсць тут акардэоны, скрыпкі і „Марына“. Што ж гэта за „Марына“? Гэта тыпова народны інструмент, напамінаючы жанчыну, апранутую ў каляровую вопратку. Замяняе ён барабан.

Сваім даволі добрым стартам зацікавілі наваколле. Запрашаюць іх на розныя святы. Прымаюць яны ўдзел у розных аглядах. Рэпертуар, зразумела, фальклорны. Самі запісваюць ад старэйшых людзей песні, самі падбіраюць гумар. Потым усё гэта апрацоўваюць і складаюць праграму. Сваёй дзейнасцю „Клекацякі“ заахвоцілі і „Каляднікаў“, якія таксама дабіліся вялікіх поспехаў. Вось у 1975 годзе ў Беластоку на аглядзе падобных ім калектываў, занялі яны першае месца.

Каб не былі гэта толькі сухія паведамленні, то можа возьмем нешта з іхняй праграмы. Што? Давайце вяселле. Простае народнае вяселле, якое падрыхтавалі сумесна з „Ютшэнкай“, „Падляшскімі кукулкамі“ і клубам селяніна ў Якубоўскіх 9 мая бягучага года з нагоды Дня перамогі і Дзён культуры, асветы, кніжкі і друку. Было гэта традыцыйнае падляшскае вяселле з народнымі песнямі, абрадамі, стравамі. Адбыўся нават падзел каравая. Былі таксама ўведзены і вясельныя чыны.

Другая рэч, якой прысвячаюць многа часу, — гэта „Нядзельны ярмарак“, у якім ужо выступалі. Цяпер чакаюць толькі вынікаў, ад якіх залежыць, ці пяройдуць да другой часткі конкурсу, ці не.

**М. Шаховіч**

